# БЛЕК-НОТ АГІТАТАРА

АГІТМАСАВЫ АДДЗЕЛ ЦК КП(б)Б






## ЗА ЎЗОРНАЕ ПРАВЯДЗЕНЬНЕ ЎБОРКІ І ДАТЭРМІНОВУЮ ЗДАЧУ ЗБОЖЖА ДЗЯРЖАВЕ

ЛІПЕНЬ

ПАРТЫЙНАЕ ВЫДАВЕЦТВА
МЕНСК — 1933

№ 16 (31)



## Для чаго быў склікан другі Ўсебеларускі зьезд колгасьнікаў-ударнікаў

Другі Ўсебеларускі зьезд колгасьнікаў-ударнікаў па сутнасьці зьяўляецца як-бы працягам першага зьезду, на якім, чатыры месяцы таму назад, ва ўсю шырыню пры самым актыўным удзеле кожнага дэлегата, на аснове адозвы першага Ўсесаюзнага зьезду колгасьнікаў-ударнікаў і прамовы т. Сталіна, было абгаворана пытаньне аб задачах колгасьнікаў у правядзеньні веснавой пасеўнай кампаніі.



Другі Ўсебеларускі зьезд колгасьнікаў-ударнікаў быў склікан напярэдадні масавага разгортваньня такой рашаючай у сельскай гаспадарцы і экономіцы ўсёй краіны работы, як уборка ўраджаю, выкананьне збожжапаставак дзяржаве і загатовак іншых сельскагаспадарчых продуктаў.

Зьезд быў склікан для таго, каб у першую чаргу выпрацаваць конкрэтныя мерапрыемствы па лепшым і своечасовым правядзеньні (вярней скончэньні) праполкі

ураджаю, яго ўборкі і выкананьню плянаў збожжапаставак і загатовак—гэтай першай запаведзі кожнага колгасьніка і аднаасобніка. Посьпех работы зьезду галоўным чынам залежыць ад таго, наколькі яго рашэньні і ўсе яго матэрыялы (даклад, выступленьні, адозва, прынятыя самаабавязацельствы па спаборніцтву з Заходняй вобласьцю) будуць шырока даведзены да кожнага колгасьніка, колгасьніцы, да аднаасобнікаў, а галоўнае—практычна выкананы.

Задачы праполкі, уборкі ўраджаю і збожжапаставак з усёй чоткасьцю былі намечаны ў дакладзе сакратара ЦК КП(б)Б т. Шаранговіча, у выступленьнях т. Гікало, Галадзеда і іншых кіруючых таварышоў. Гэтыя выступленьні, адозва зьезду да ўсіх колгасьнікаў і аднаасобнікаў БССР, самаабавязацельствы, прынятыя зьездам па соцспаборніцтву з Заходняй вобласьцю, выступленьні раду колгасьнікаў—лепшых ударнікаў павінны зьявіцца матэрыялам для шырокай прапрацоўкі і мобілізацыі колгасьнікаў і аднаасобнікаў на выкананьне чарговых задач сельскай гаспадаркі.

Другой асноўнай задачай склікаsuccessь зьезду было падвядзеньне вынікаў веснавой пасеўнай кампаніі з мэтай дакладна ўлічыць накоплены багацейшы станоўчы вопыт барацьбы за бальшавіцкую сяўбу, шырока распаўсюдзіць гэты станоўчы вопыт і ўжыць

яго ў далейшай рабоце. Падвядзеньне вынікаў сяўбы таксама ставіць сваёй задачай улік і крытыку недахопаў, выяўленых у працэсе барацьбы за посьпех веснавой сяўбы. Гэта асабліва важна і неабходна для таго, каб выяўленыя недахопы і памылкі не паўтараць у будучай пасеўнай кампаніі, выправіць іх пры правядзеньні чарговых мерапрыемстваў па ўборцы, праполцы і загатоўках, каб на прыкладзе рашучай крытыкі памылак і недахопаў мобілізаваць колгасьнікаў на лепшую добрасумленную работу.

Такім чынам, зьезд быў склікан галоўным чынам для таго, каб **падвесьці вынікі пройдзенага этапу сельскагаспадарчых работ** (г. зн. веснавых работ) **і мобілізаваць масы колгасьнікаў і аднаасобнікаў на пасьпяховае выкананьне чарговых задач: праполкі, уборкі, збожжапаставак.**

Зьезд прайшоў пры выключнай актыўнасьці яго дэлегатаў—лепшых колгасьнікаў-ударнікаў і ўдарніц; паказаў значны рост соцыялістычнага сазнаньня колгасьнікаў і намеціў конкрэтную баявую програму па выкананьні чарговых задач, якія зараз стаяць перад колгасьнікамі.

Зьезд яскрава прадэмонстраваў тое, што мы маем усе магчымасьці, каб сельскую гаспадарку БССР узьняць на больш высокі ўзровень, што ў нашых руках ёсьць усе магчымасьці вывесьці БССР у лік самых

перадавых рэспублік Савецкага саюзу па выкананьні чарговых гаспадарча-палітычных задач.

Зьезд паказаў вялізарнейшы рост і згуртаваньне вакол партыі шырокага беспартыйнага колгаснага актыву ўжо праверанага ў барацьбе за веснавую сяўбу, за колгасную справу. Гэты актыў асабліва выявіўся і вырас у барацьбе за сяўбу і зараз актыўна змагаецца за пасьпяховае правядзеньне прапалкі, уборкі ўраджаю і выкананьне плянаў збожжапаставак дзяржаве.

Зьезд яскрава паказаў далейшы рост і ўкараненьне сярод колгасных мас соцыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва, рост соцыялістычных адносін да працы з боку колгасьнікаў і асабліва з боку колгасьніц. Той факт, што амаль кожны дэлегат зьезду прывёз з сабою лепшыя ўзоры—экспонаты свайго колгасу (лён, раньняя бульба і інш.), зьяўляецца адным з паказальнікаў вытворчай актыўнасьці колгасьнікаў і ў першую чаргу колгасьнікаў-ударнікаў.

Зьезд наглядна паказаў рост палітычнага сазнаньня і вытворчай актыўнасьці жанчыны-колгасьніцы, гэтай «вялікай сілы ў колгасе».

Зьезд паказаў рост адданасьці колгасных мас комуністычнай партыі, яе кіруючым органам і любімаму правадыру партыі т. Сталіну.

## Галоўныя вынікі веснавой сяўбы

Веснавая сяўба гэтага году была праведзена больш арганізавана і значна лепш, чым у мінулым годзе. Аб гэтым сьведчаць наступныя паказальнікі:

а) У гэтым годзе па БССР плян сяўбы выканан на 100.9 проц., і на дваццаць дзён раней, чым у мінулым годзе; якасьць апрацоўкі глебы таксама значна лепшая ў параўнаньні з мінулым годам; значна вырасьлі патрабаваньні да якасьці апрацоўкі глебы і засеву (вопыт стварэньня інспэкцый па якасьці, самаправерачных брыгад, узаемная праверка брыгадамі апрацоўкі глебы і заворваньня).

Да ліку станоўчых вынікаў вясны гэтага году трэба аднесьці посьпехі ў звышраньняй сяўбе. Па БССР засеяна звышраньняй сяўбой каля 10 тыс. га збожжавых культур і больш тысячы га лёну. Далёка ня ўсюды, але ў значнай частцы раёнаў і колгасаў, зломаны консэрватыўныя, дзедаўскія адносіны да звышраньняй сяўбы, да орыентоўкі ў тэрмінах сяўбы па царкоўным календары.

Вось што, напрыклад, расказвае т. Васілеўскі, дэлегат другога Ўсебеларускага зьезду колгасьнікаў-ударнікаў, старшыня колгасу

імя Дзяржынскага, Чырвона - Слабодзкага раёну:

«Калі мы пачыналі раньнюю сяўбу аўса, кулакі і падкулачнікі сіпелі: «Няхай толькі пасеюць, дык і насеньня не зьбяруць. Ня можна сеяць аўса пакуль суніца ня стане чырвоная». Але мы ня слухалі ніякіх забабон і агітацыі. Авёс мы засеялі значна раней, чым летась. На вучастку «Маева» авёс засеялі ў красавіку, а на вучастку «Калініна» ў пачатку мая. Вучасткі знаходзяцца праз дарогу, маюць аднолькавую глебу, аднолькава апрацаваны. У мінулым годзе гной вазілі як на адзін, так і на другі вучастак. А вось усходы розныя. На вучастку «Маева» поле хутка пакрылася роўнымі дружнымі ўсходамі. Авёс расьце вельмі добра. На вучастку «Калініна» авёс значна горшы, а калі параўнаць колгасны пасеў з суседнім аднаасобным, які быў засеян пазьней колгаснага на 1½—2 тыдні, то тут зусім вялікая розьніца. Ня толькі колгасьнікі, але нават аднаасобнікі на справе пераканаліся, што «веснавы дзень год корміць». Кожны чалавек, пабыўшы на нашых вучастках, гаворыць: «хочаш ня ўпасьці тварам у гразь, сей авёс у гразь».

Раньняя сяўба дала моцны ўдар па кулацкай агітацыі.

Вясна 1933 г. значна адрозьніваецца ад мінулага году тым, што сярод шырокай масы колгасьнікаў створан пералом у адносінах да колгаснай працы і дысцыпліны. Соцспаборніцтва і ўдарніцтва пачало больш шырока, чым раней, укараняцца сярод колгасьнікаў і аднаасобнікаў.

У выніку барацьбы за пасьпяховую сяўбу ўмацаваліся сталыя вытворчыя брыгады. Узрасло значэньне працадня. Колгасьнікі яшчэ больш пераканаліся ў тым, што працадзень зьяўляецца адзіна правільнай і лепшай формай уліку працы.

У гэтую веснавую пасеўную кампанію мы дабіліся значных посьпехаў у справе ачышчэньня колгасаў ад кулацкіх і іншых антысавецкіх элемэнтаў, лепш умацавалі і адміністрацыйны апарат колгасаў, значна яго ачысьціўшы ад варожых элемэнтаў.

Дзьве праграмныя прамовы т. Сталіна аб рабоце ў вёсцы (прамова на студзеньскім пленуме ЦК і ЦКК УсеКП(б) і на Ўсесаюзным зьезьдзе колгасьнікаў-ударнікаў), рашэньні студзеньскага пленуму ЦК і ЦКК УсеКП(б), адозва першага Ўсесаюзнага зьезду колгасьнікаў - ударнікаў — зрабілі карэнны пералом у нашай рабоце на вёсцы.

Яны стварылі нябывалы ўздым творчай актыўнасьці колгасных мас. Указаньні т. Сталіна мобілізавалі партыйную організацыю і колгасьнікаў на барацьбу з рэшткамі кулацтва, дапамаглі комуністам разабрацца ў абстаноўцы на вёсцы, дапамаглі выкрыць новую тактыку кулацтва, узброілі ідэйна партыю і колгасьнікаў.

Факты з усёй яскравасьцю сьведчаць аб тым, што посьпех сяўбы ў раёнах і колгасах знаходзіўся ў прамой залежнасьці ад таго, наколькі ўказаньні т. Сталіна былі ўсвоены комуністамі і шырока прапрацаваны сярод колгасьнікаў.

Лёзунг т. Сталіна **«зрабіць усіх колгасьнікаў заможнымі»** выклікаў новы магутны ўздым колгасьнікаў. Гэты лёзунг умацаваў канчаткова ўпэўненасьць колгасьнікаў у тым, што колгасны шлях зьяўляецца адзіна правільным шляхам. Для пасьпяховага правядзеньня веснавой сяўбы ён меў вялізарнейшае рашаючае значэньне.

Пастанова партыі аб пераходзе ад ранейшых мэтодаў збожжазагатовак да абавязковай пастаўкі збожжа дзяржаве зьявілася таксама магутным стымулам для колгасьнікаў і аднаасобнікаў у выкананьні пасеўных плянаў.

Вялізарнейшая дапамога ў справе пасьпяховага правядзеньня веснавой сяўбы была аказана стварэньнем політаддзелаў пры МТС і

саўгасах. Палітаддзелы, умацаваныя лепшымі праверанымі комуністамі, адразу-ж па-бальшавіцку ўзяліся за справу. Яны дапамаглі ачысьціць колгасы і саўгасы ад клясава-варожых элемэнтаў, лепш організавалі колгасны актыў і ўзьнялі масава-палітычную работу ў вёсцы на вышэйшую ступень, заняліся конкрэтнымі пытаньнямі організацыі колгаснай вытворчасьці.

> «Пасьпяховае правядзеньне сяўбы ў гэтым годзе дасягнута дзякуючы разгрому саботажу кулацкіх элемэнтаў у часе збожжазагатовак, умацаваньню колгасаў, росту і згуртаваньню ў іх савецкага актыву, стварэньню палітаддзелаў, мобілізацыі шырокіх мас колгасьнікаў вакол лёзунгу партыі: «зрабіць ўсіх колгасьнікаў заможнымі», пераходу ў справе збожжазагатовак ад сыстэмы контрактацыі да абавязковай пастаўкі збожжа, якая загадзя вызначыла цьвёрдыя размеры здачы збожжа з гектара для кожнага колгасу.
>
> Падводзячы вынікі, мы можам цяпер сказаць, што позыцыі аднаасобнай гаспадаркі ўжо пераможаны ва ўсіх асноўных раёнах СССР і поўная перамога колгаснага ладу ў вёсцы забясьпечана». (З пастановы ЦК УсеКП(б) і СНК СССР ад 24-V-33 г.).

Аднак ці ёсьць якія-небудзь падставы для таго, каб супакоіцца на дасягнутых посьпехах? Зразумела, не. Тым больш, што мы ў БССР мелі ўсе магчымасьці сяўбу правесьці лепш, у больш кароткія тэрміны і хутчэй закончыць пасевы ільну і аўса.

Соцыялістычнае спаборніцтва БССР з Заходняй вобласьцю на лепшае правядзеньне веснавой сяўбы зьявілася таксама справай выключнай важнасьці, якая спрыяла пасьпяховаму правядзеньню сяўбы. У гэтым спаборніцтве пяршынство засталося за БССР. Аднак галоўнае—**замацаваць посьпехі сяўбы ўзорным правядзеньнем уборкі, сваячасовым і поўным выкананьнем абавязацельстваў перад пролетарскай дзяржавай.**

Заходняя вобласьць выклікала БССР працягнуць дагавор аб спаборніцтве на пяршынство па ўборцы і выкананьні абавязацельстваў перад пролетарскай дзяржавай. Гэты выклік другім Усебеларускім зьездам колгасьнікаў-ударнікаў прынят. Другі Ўсебеларускі зьезд колгасьнікаў-ударнікаў узяў на сябе конкрэтныя абавязацельствы і заклікаў усіх колгасьнікаў БССР на выкананьне гэтых абавязацельстваў. Зьезд таксама ўключыўся ва ўсесаюзнае спаборніцтва за пяршынство па выкананьні пляпаў здачы сельскагаспадарчай продукцыі дзяржаве, разгорнутае па пачыне Татарскай рэспублікі.

Зараз задача заключаецца ў тым, каб гэтыя конкрэтныя абавязацельствы, прынятыя зьездам, былі добра вядомы кожнаму колгасьніку і аднаасобніку (яны апублікаваны ў «Зьвязьдзе» і іншых цэнтральных газэтах за 19-VII-33 г., а таксама выдаюцца асобнай кніжкай), каб мобілізаваць колгасьнікаў і аднаасобнікаў **на выкананьне** прынятых зьездам самаабавязацельстваў.

Заходняя вобласьць, выканаўшы агульны плян сяўбы пазьней, чым БССР, лён засеяла раней за нас і таму мае лепшыя магчымасьці сабраць большы ўраджай. Опортуністычныя настроі ў адносінах раньніх пасеваў яшчэ досыць пашыраны ў значнай частцы раёнаў БССР. Гэтыя настроі, дапаўняемыя няўменьнем па-бальшавіцку організаваць работу, прывялі да таго, што цэлы рад раёнаў, як напрыклад Віцебск, зацягнулі сяўбу звыш усялякіх устаноўленых партыяй і ўрадам тэрмінаў.

Такія раёны, як Сіроцінскі, Гарадокскі, Бешанковіцкі, Крупскі і некаторыя другія, ня выканалі плянаў веснавой сяўбы.

Другі Ўсебеларускі зьезд колгасьнікаў-ударнікаў у сваім прывітаньні т. Сталіну зусім правільна адзначае:

> «Аднак, колгасьнікі і аднаасобнікі Беларусі мелі ўсе магчымасьці закончыць сяўбу раней і лепш. Сяўбу мы

ўсё-ж правялі ня так, як патрабавалі ад нас партыя і ўрад. Тэрмінаў поўнасьцю мы ня вытрымалі і асабліва спазьніліся з пасевам аўса і ільну—вядучых культур Беларусі.

Колгасьнікі Беларусі добра разумеюць, што сканчэньне веснавой сяўбы ёсьць толькі пачатак барацьбы за высокі ўраджай, за выкананьне тваіх указаньняў аб тым, каб зрабіць колгасы бальшавіцкімі і колгасьнікаў—заможнымі. Галоўнае ўперадзе: поўная праполка, уздым папараў, уборка ўраджаю, уздым зябліва. Выкананьне пляну збожжаздачы—наша першая запаведзь».

## За якія чарговыя задачы ў сельскай гаспадарцы трэба змагацца цяпер

Другі Ўсебеларускі зьезд колгасьнікаў-ударнікаў зусім правільна накіраваў сваю галоўную ўвагу на пытаньні чарговых сельскагаспадарчых работ і ў першую чаргу заняўся конкрэтнымі пытаньнямі ўборкі ўраджаю, рашучага падняцьця ўраджайнасьці ў гэтым годзе, пытаньнямі збожжапаставак і загатовак сельскагаспадарчых продуктаў.

Посьпехі, якіх мы дасягнулі ў часе правядзеньня веснавой сяўбы, зьяўляюцца буйным крокам уперад. Але гэта толькі першы

крок. Пасеўная кампанія не заканчвае барацьбы за ўраджай. Наадварот, сяўба—гэта толькі палавіна работы і ня больш чым палавіна. Посьпех сяўбы і высокага ўраджаю павінен быць замацаван добра організаванай праполкай пасеваў, уборкай і выкананьнем колгасамі і аднаасобнікамі сваіх абавязкаў перад дзяржавай па збожжапастаўцы, а потым разьмеркаваньнем ураджаю паміж колгасьнікамі ў адпаведнасьці з затрачанай кожным колгасьнікам працай.

## Праполка

Праполка пасеваў—магутны сродак для павышэньня ўраджайнасьці.

Мы ў БССР значна зацягнулі справу з праполкай і тым самым наносім удар па высокай ураджайнасьці. Колгасьнікі-ўдарнікі зусім правільна на зьезьдзе патрабавалі рашучага пераломy ў гэтай справе. Пастанова ЦК КП(б)Б і СНК БССР дае па гэтым пытаньні зусім чоткае і конкрэтнае ўказаньне:

> «Правесьці масавую праполку засьмечаных азімых, у першую чаргу пшаніцы і яравых каласавых пасеваў да выхаду іх у трубку. У сувязі з тым, што гэтая работа па БССР у масавым аб'ёме праводзіцца першы год, абавязаць РК і РВК, Райза, праўленьні колгасаў, ды-

рэктароў МТС зьвярнуць на гэтую работу асаблівую ўвагу і ўзмацніць масавую работу, арганізаваўшы праверку выкананьня гэтых мерапрыемстваў, накіраваных на павышэньне ўраджайнасьці.

Правесьці ня менш аднаго разу праполку проса і два разы ільну.

Па караньплодах правесьці двухразовую, а па гародніх культурах трахразовую абсыпку, праполку і ўспульхненьне.

Бульбу прабаранаваць пры ўсходах пры плуговай пасадцы і абсыпаць ня менш двух разоў».

**Асабліва важная справа—праполка ільну.** Нам неабходна забясьпечыць абавязковую двухразовую праполку звычайнага ільну і трохразовую праполку сэлекцыйнага (сартовага) ільну.

Праполка патрабуе большай колькасьці дадатковых рабочых рук, аднак гэта ні ў якім разе не павінна прыводзіць да парушэньня сталай вытворчай брыгады. Брыгада павінна адказваць поўнасьцю за праполку замацаванага за ёй вучастку, прыцягваючы на праполку ўсю наяўную жаночую сілу і дзяцей. На праполцы, як і на ўсіх работах, патрабуецца пільнае вока, бо клясава-варожыя элемэнты могуць псаваць пасевы (таптаць іх, або проста разам з пустазельлем вырываць усходы збожжа, ільну і інш.).

## Уборка ўраджаю

З усіх палявых работ уборка ўраджаю зьяўляецца найбольш працаёмкай і таму патрабуе асабліва ўмелай арганізацыі і расстаноўкі людзей. Галоўная задача **ўбраць ураджай бяз страт,** а гэта ў значнай меры вырашаецца ўшчыльненьнем тэрмінаў уборкі, своячасовым пачаткам уборкі і пільнай аховай сабранага ўраджаю.

Трэба ўборку правесьці так, каб забясьпечыць збор ураджаю ня менш 8 **ц** збожжавых культур з **га,** ня менш 100 **ц** бульбы і ня менш 2,4 **ц** ільнавалакна **з га.**

Трэба рашуча змагацца за выкананьне наступных абавязацельстваў, прынятых другім Усебеларускім зьездам калгасьнікаў-ударнікаў.

Скончыць сенаўборку ва ўстаноўленыя тэрміны, да пачатку пасьпяваньня азімых, своячасова пачаць уборку ўраджаю і ні ў якім выпадку не дапусьціць перастою траў і перасьпяваньня збожавых і іншых культур, убіраць паасобныя вучасткі збожжавых, не чакаючы пасьпяваньня ўсёй плошчы.

Збожжавыя культуры ўбраць абавязкова ў часе васковай сьпеласьці. Жыта азімае і пшаніцу—за 10-12 дзён, авёс—за 13-15 дзён, ячмень—за 6-7 дзён.

Бульбу ўбраць на працягу 15-20 дзён.

Уборку ільну правесьці за 8-10 дзён у раньняй жоўтай сьпеласьці. Непасрэдна пасьля церабленьня правесьці абмалот і расьсьціл ільну, прычым закончыць гэту работу на працягу жніўня і верасьня.

Уборку сена першага ўкосу правесьці за 20 дзён, другога—за 15 дзён. Сеяныя травы першага ўкосу ўбраць за 12 дзён, другога—за 15 дзён. Правесьці рашучую барацьбу з патраваю атавы.

Сіласныя культуры таксама ўбраць поўнасьцю і ў тэрмін.

Падрыхтоўка да ўборкі павінна быць разгорнута ва ўсіх колгасах так, каб было прадугледжана літаральна ўсё, нават самыя «дробязі», якія вельмі часта вырашаюць тэмпы і якасьць уборкі.

Другі Ўсебеларускі зьезд колгасьнікаў-ударнікаў у сваёй адозьве сказаў наступнае:

> «Мы павінны пачаць жніво ў пэрыод васковай сьпеласьці. Нельга прапускаць ні аднаго дня і гадзіны. А для гэтага трэба прадугледзець усё—падрыхтаваць коняй, збрую, трактары, жняяркі, косы і сярпы. Усё павінна быць гатова. Дрэнна будзе, калі ўжо ў часе ўборкі мы будзем шукаць сярпоў, правіць косы, даставаць вяроўкі і розную збрую. Усё гэта павінна быць гатова загадзя. Мы заклікаем вас, таварышы колгасьнікі і аднаасобнікі, зараз-жа праверыць усе

вучасткі падрыхтоўкі, нічога не працяваць і неадкладна нагнаць прапушчанае.

Было-б вялікім злачынствам пакінуць на полі нязьвязаным зжатае збожжа. Наша задача—увесь зьняты ўраджай вязаць у снапы, прычым вязаньне пачаць адразу-ж усьлед за жнівом».

Пасьпяховае правядзеньне ўборкі ў значнай меры залежыць ад таго, наколькі сваечасова і добраякасна будзе праведзен **рамонт уборачных машын і ўсяго ўборачнага інвэнтару.** За гэтую справу трэба брацца самым актыўным парадкам, з такім разьлікам, каб да пачатку ўборкі ўсе машыны былі ў поўнай спраўнасьці, дагледжаны, змазаны, каб была падрыхтавана дастатковая колькасьць запасных частак і т. д.

Ня гледзячы на тое, што колькасьць машын у гэтую ўборачную кампанію значна павялічваецца, усё-ж конская цягавая сіла будзе зьяўляцца **асноўнай і рашаючай.** Таму падрыхтоўка конскай цягавай сілы зьяўляецца выключна важнай справай, якая патрабуе неадкладнай практычнай работы (выдзяленьне непрацаздольных і слабасільных для падкормкі, палепшаньне догляду за коньмі наогул і т. д.).

Усебеларускі зьезд колгасьнікаў-ударнікаў прыняў наступныя самаабавязацельствы:

«Уборку сена і сілосаваньне правесьці так, каб, выканаўшы абавязацельствы

перад дзяржавай, стварыць дастатковы запас сена і сілосу для аграмаджанай жывёлы і недатыкальны кармовы фонд на вясну, а таксама забясьпечыць кармамі і неаграмаджаную жывёлу колгасьнікаў.

Організаваць начную пасьбу коняй, а таксама забясьпечыць зялёнай падкормкай у першую чаргу слабасільных і працуючых на ўборачных машынах».

Неабходна ў кожным колгасе дабівацца строгага выкананьня наступных конкрэтных правіл па ўборцы:

Організаваць штодзенны нагляд за высьпяваньнем збожжа. Нагляд праводзіцца брыгадай пад адказнасьць брыгадзіра і праўленьня колгасу. Нагляд організуецца за 10—15 дзён да высьпяваньня.

У кожным колгасе і брыгадзе павінны быць не пазьней як за 10 дзён да ўборкі складзены і прапрацаваны на вытворчых нарадах брыгад пляны ўборкі.

Павінны быць адрамантаваны ўборачныя машыны і інвэнтар і замацаваны за брыгадамі. Ня трэба забыць пра дробны інвэнтар, неабходны на ўборцы (граблі, малаткі, косы, сярпы). Забясьпечыць запасныя нажы для замены затупіўшыхся пры рабоце.

Да кожнай уборачнай машыны трэба падрыхтаваць зерняўлавіцелі (у майстэрнях МТС, у майстэрнях колгасаў, у саміх брыгадах).

Пры наглядзе за высьпяваньнем улічыць: рэльеф, глебу, сорт, тэрмін сяўбы.

Убіраць кожны вучастак па меры высьпяваньня, у стадыі васковай сьпеласьці.

Поўнасьцю скарыстаць машыны. Устанавіць, адрэгуляваць машыны да выезду ў поле. Уважліва сачыць за работай. Праз кожныя $1\frac{1}{2}$—2 гадзіны змазваць машыны, а адказныя часткі—часьцей. На снопавязалках працаваць са снопаносам. Асабліва дакладна рэгуляваць рэжучы апарат, матавіла і вязальны апарат у снопавязалках, граблі—ў жняярках. Рэгуляваць машыны ў залежнасьці ад вышыні і палажэньня збожжа.

Абавязкова вязаць збожжа ў снапы, прасохшае адразу, а сырое пасьля прасушкі, аднак у дзень уборкі.

Зношваньне і пастаноўку снапоў у бабкі рабіць ня цягнучы снапоў і ня кідаючы. Намокшыя бабкі расстаўляць у сухое надвор'е, калі бабкі раскідаюцца, зноў падымаць.

Забясьпечыць неадкладную перавозку пасьля прасушкі. Вазы падсьцілаць брэзэнтам, подсьцілкамі, шчыльнымі саламянымі матамі. Ня езьдзіць шпарка з вазамі.

Загадзя падрыхтаваць месцы для скіртаваньня, правільна ўкладваць скірты.

Арганізаваць супроцьпажарную ахову, стварыць пажарныя дружыны ў кожным калгасе.

Уборка бульбы і гародніны ва ўмовах БССР набывае асабліва важнае значэньне. У мінулым годзе нядбайнасьць, а вельмі часта і прамое шкодніцтва ў гэтай справе прывяло да вельмі значных страт такіх каштоўных культур, як гародніна і бульба.

Таму неабходна:

Бульбоўнік за тыдзень да ўборкі скасіць і засілосаваць.

Бульбу перабіраць і прасушваць, каб лепшай якасьці бульбу ў першую чаргу накіраваць працоўным Ленінграду і на здатачныя пункты.

Поле пад бульбай абавязкова прабаранаваць і пераараць у другі раз, каб ні адной бульбіны не засталося.

Захаваць на насеньне сартавую бульбу, правесьці ўвосень міжколгасны абмен.

Асаблівую ўвагу зьвярнуць на правільнае буртаваньне.

Гародніну ўбіраць выбарачна, не дапускаючы перарастаньня і перасьпяваньня.

Адказьнейшым вучасткам работы зьяўляецца ўборка і апрацоўка ільну і канапель. Уборка і наступная апрацоўка гэтых тэхнічных культур вырашае якасьць валакна, таму неабходна выконваць наступныя правілы:

Цярабленьне павінна праводзіцца ў стадыі раньняй жоўтай сьпеласьці, сартавога ільну— у жоўтай сьпеласьці.

Уборка пласконі праводзіцца да канца цьвіценьня канаплі ў васковай сьпеласьці сярэдняй часткі галовак.

Кожная ільноцерабілка павінна быць адрамантавана, адрэгулявана, новая абкатана, устаноўлена перад пачаткам работы на кожным вучастку ў залежнасьці ад палажэньня ільну і самае галоўнае—забясьпечана добра падрыхтаванымі кадрамі.

Сушку ільну пасьля ручнога і машыннага церабленьня без снопавязальнага апарату церабленьня праводзіць у конусах і шатрах.

Сушку ільну пасьля машыннага церабленьня з снопавязальным апаратам вытвараць у бабках-шатрах.

Снапы вязаць таўшчынёй у 10—12 **см** для малацьбы на малатарнях «Эдзі» і 12—15 **см** для ачосу на машыне «Гільштэйна».

Нельга дапускаць абмалоту на збожжавых малатарнях і цяжкімі каменнымі каткамі.

Салому пасьля абмалоту неабходна неадкладна расьсьцілаць або замачваць. Лепшым часам расьсьцілкі, замочкі зьяўляецца жнівень і першая палавіна верасьня месяца.

Лепшым месцам расьсьцілу зьяўляюцца сенажаці, але не забалочаныя і ня іржавыя. Канюшынішча добрае месца расьсьцілу, але нельга дапускаць расьсьціл пашкоджанага грыбнымі хваробамі ільну на вучастках, якія вызначаны для пасеву ільну ў наступным годзе.

Нельга дапускаць пералежкі і перамочкі трасты.

Нельга дапускаць мочкі саломы ў жорсткай іржавай вадзе, у вельмі халодных крыніцах і вадаёмах з быстрым цячэньнем вады.

Сушку саломы і трасты трэба вытвараць натуральным спосабам, дапускаючы ў крайніх выпадках сушку ў ёўнях.

Гарачую трасту нельга пускаць у мяцьцё.

Трапаньне трэба вытвараць у 2 прыёмы: трапаньне на чорна і трапаньне на чыста, прычым пры апошнім трапаньні асабліва важна выдзеліць больш вопытных трапальнікаў.

Посьпех уборкі вырашаецца тым, наколькі будуць скарыстаны ў колгасе ўсе працаздольныя члены колгасу і наколькі правільна будзе організавана работа. У брыгадзе работа павінна быць організавана так, каб ня была абсолютна ніякай абязьлічкі, каб кожны колгасьнік і колгасьніца мелі конкрэтнае заданьне і, нарэшце, каб ні ў якім выпадку не парушаўся сталы вытворчы склад брыгады.

## Створым лепшыя ўмовы для колгасьніцы

**Колгасьніца ў часе ўборкі** зьяўляецца такой сілай, якая больш чым калі-б там ні было будзе вырашаць посьпех уборкі. Між тым

пытаньне аб стварэньні такіх умоў, пры якіх-бы колгасьніца змагла лепш прымаць удзел ва ўборцы ўраджаю, вельмі часта недаацэньваецца ў колгасах. З такой недаацэнкай трэба бязьлітасна змагацца. Організацыя ясьляйдзіцячых пляцовак, выязных кухань і наогул усяго грамадзкага харчаваньня павінна зьявіцца справай усіх колгасаў і ў першую чаргу іх кіраўніцтва. Мы павінны стварыць усе ўмовы для таго, каб колгасьніца сапраўды ўдзельнічала нароўні з мужчынамі ва ўсіх працэсах колгаснай працы.

Тав. Сталін на першым Усесаюзным зьезьдзе колгасьнікаў-ударнікаў зусім правільна сказаў—«Жанчына ў колгасах—вялікая сіла. Трымаць гэтую сілу пад спудам, значыць дапусьціць злачынства. Наш абавязак заключаецца ў тым, каб высоўваць уперад жанчын у колгасах і пусьціць гэтую сілу ў справу».

Мы маем нязьлічоную колькасьць прыкладаў, якія бліскуча пацьвярджаюць правільнасьць слоў нашага правадыра аб тым, што жанчына ў колгасе ёсьць сапраўды вялікая сіла.

Колгас «Чырвоны мяцеж», Кастрычніцкага сельсавету, Слуцкага раёну, быў адным з адсталых колгасаў. Працдысцыпліна адсутнічала. На чале стаяў кулацкі падпявала—нейкі Рагель, які зусім правальваў сяўбу. У часе сяўбы агульны сход абраў старшынёй колгасу колгасьніцу — лепшую ўдарніцу — **Туравец**

Ольгу. Яна здолела згуртаваць вакол сябе актыў, наладзіць працоўную дысцыпліну, арганізавала добры выхад на работу, добры догляд за канём і сяўбу скончыла першай у раёне. Туравец Ольга карыстаецца вялікім аўторытэтам у колгасе. Узорна праводзіць праполку пасеваў, правільна арганізоўвае догляд за пасевамі і жанчыны там уцягнуты ў штодзенную работу.

Праполка палявых культур у гэтым колгасе скончана, цяпер прапольваюць у другі раз гароды. Абмеркавалі плян уборкі, дзе ўзялі на сябе абавязацельства: 40 га жыта ўбраць за 10 дзён і з поля арганізаваць абмалот; авёс убраць за 4 дні; плян збожжазагатовак выканаць датэрмінова.

У колгасе «Ўдарнік», Александраўскага сельсавету, Шклоўскага раёну, брыгадзір праполачнай брыгады—т. Лісава Юля так здолела разгарнуць паміж брыгадамі соцспаборніцтва і ўдарніцтва, што яе брыгада перавыконвае нормы. У яе брыгадзе 8 чал. прапалвалі 1,75 га тэхнічных культур замест 1 га. За добрую работу па пасеву і праполцы гэты колгас атрымаў пераходны сьцяг РВК.

Колгасьніцы гэтага колгасу на раённым зьлёце заявілі, што «мы будзем моцна трымаць чырвоны сьцяг і замацуем свае ўдарныя тэмпы і на час уборкі і здачы збожжа дзяржаве».

У колгасе «Юны ленінец», Чачэрскага раёну, колгасьніцы былі ўцягнуты ў сталыя палявыя брыгады, мелі прымацаваных коняй і перавыконвалі нормы выпрацоўкі. Напрыклад, Гузава сыстэматычна перавыконвала норму, замест 0,40 га, выконвала 0,43—0,44 га. Перавыконвалі Дубоўская, Нагунова і інш. Гузава на сходзе колгасьнікаў заявіла так: «Калі падвялі вынікі сяўбы, то паасобныя колгасьнікі скардзіліся, што была вялікая норма ворыва. Я бяру прыклад з сябе: у мяне зусім ня лепшы конь, але-ж я сама лепш не даем, не дасплю, дагляджу каня свайго як сьлед і мой конь ніколі не прыставаў, а нават добры мае выгляд па ўхарчаванасьці. Запэўняю колгасьнікаў, што і ў асеньнюю сяўбу мая брыгада будзе таксама першай».

У Касьцюковіцкай МТС—Давыдава Галена працуе трактарысткай два гады. Яна гаворыць так: «Я цьвёрда парашыла, што стану мэханікам, зараз працую ня дрэнна, добра ведаю свой «Інтэр», ведаю ўсе яго капрызы, ужо нават два разы сама падшыпнік падганяла, што павінен быў зрабіць мэханік. Я выпрацавала 357 працадзён у мінулым годзе і зараз 120 працадзён.

Пудан Паўліна—лепшая ўдарніца, дэлегатка другога Ўсебеларускага зьезду колгасьнікаў-ударнікаў, працуе ў брыгадзе колгасу «Шлях Леніна», Полацкага раёну. Яна назолку кожны дзень прыходзіць у брыгаду, дапа-

магае брыгадзіру Паўленку Алесю абмеркаваць плян работы на дзень, дапамагае расставіць рабочую сілу, заходзіць на стайню, правярае, як конюх корміць коняй і, калі колгасьнікі зьбіраюцца на работу, яна разам з ім запрагае пару коняй і едзе на ворыва. Норму па ворыве Паўліна перавыконвае — заўсёды ўзорвае 50—60 сотак, тады як некаторыя дужыя мужчыны на такой-жа пары коняй узорваюць толькі па 20—40 сотак.

У часе перапынку Паўліна праводзіць гутаркі з колгасьнікамі, чытае ім газэту, піша заметкі ў насьценгазэту. Уважліва сочыць за тым, каб ня было агрэхаў, каб добрай была якасьць ворыва, баранаваньня і сяўбы ў кожнага колгасьніка. У брыгадах, па яе ініцыятыве, праводзяцца вытворчыя нарады.

Пудан Паўліна—маладая комсамолка—з 1931 г. Сакратаром ячэйкі працуе з 1932 г.

## Арганізацыя малацьбы

**Цэнтральнай задачай уборачнай кампаніі гэтага году зьяўляецца арганізацыя хутчэйшага абмалоту** з тым, каб адразу з-пад малатарні здаць збожжа дзяржаве. На гэтую справу ў мінулым годзе не зьярталася дастаткова сур'ёзнай увагі, у выніку чаго малацьба недапушчальна расьцягвалася на вялікі час, была дрэнная якасьць малацьбы і

вялікая колькасьць збожжа аставалася ў саломе. Ня было таксама контролю над работай малатарань і быў дрэнны ўлік збожжа, з прычыны чаго былі вялікія раскраданьні і страты збожжа.

Вось гэтыя недахопы і памылкі, якія мелі месца ў мінулым годзе, зараз павінны быць цалкам і поўнасьцю ўстаронены.

ЦК УсеКП(б) і ўрад у сваёй пастанове ўказалі на гэтыя недахопы і памылкі, прапанаваўшы мясцовым партыйна-савецкім організацыям значна лепш організаваць абмалот, бязумоўна ўстараніўшы памылкі і недахопы мінулага году.

Згодна ўказаньняў партыі і ўраду пачатак абмалоту павінен быць забясьпечан не пазьней шостага дня пасьля жніва з тым, каб скіртаваньне вытваралася разам з малацьбой і каб праз 10—15 дзён пасьля пачатку абмалоту перайсьці на абмалот са скіртаў.

Не пазьней, як за дзесяць дзён да пачатку ўборкі павінен быць закончан рамонт усіх малатарань і забясьпечана дакладная праверка становішча ўсіх малатарань да пачатку малацьбы.

Вагаўшчыкі і машыністы малатарань, якія належаць МТС, павінны быць узяты на ўтрыманьне за кошт МТС. Дырэктары МТС і начальнікі політаддзелаў нясуць непасрэдную адказнасьць за падбор і падрыхтоўку машыністаў і вагаўшчыкоў.

Сваячасова павінны быць закуплены малатарні і заключаны дагавары МТС з колгасамі на абслугоўваньне МТС колгасаў па абмалоце.

## Сенаўборка

**Неадкладна завяршыць сенаўборку**—такая баявая задача была пастаўлена з усёй вастрынёй на другім Усебеларускім зьезьдзе колгасьнікаў-ударнікаў. Мы з гэтай справай значна адсталі і тым самым ускладняем справу з разгортваньнем уборкі збожжавых культур. Чым больш зацягваецца сенаўборка, тым менш вызваляецца рабочых рук на ўборку збожжавых, а гэта значыць тым больш спрыяючыя ўмовы для перасьпяваньня збожжавых культур. Перасьпяваньне-ж збожжавых—павялічэньне страт. Вось чаму сенаўборка павінна быць неадкладна самымі баявымі тэмпамі скончана.

Нельга дапускаць перастою траў, бо ад гэтага значна паніжаецца якасьць сена. Трэба поўнасьцю скарыстаць з самай найвялікшай нагрузкай кожны сонечны дзень, каб лепш прасушыць сена і атрымаць яго лепшай якасьці.

ЦК КП(б)Б і СНК БССР далі мясцовым арганізацыям указаньне:

«...Арганізаваць уборку сенажацяй такім чынам, каб зграбаньне сена і сто-

гамятаньне не адрывалася ад сенакашэньня, а праходзіла ўсьлед за ім не пазьней як праз 3—5 дзён пасьля скашэньня.

Лічыць абавязковай перавозку высушанага сена ў сенавалы бліжэйшых сенакосных вучасткаў за выключэньнем тых балот, па якіх немагчым праезд з возам.

а) Забясьпечыць захаваньне насеньнікаў сеяных траў у разьмерах, устаноўленых плянам, і своячасовае скошваньне іх на насеньне;

б) арганізаваць найстражэйшую ахову скошанага сена ад раскрадваньня як з сенажацяй, так і сенавалаў; выдзеліць для гэтай мэты спэцыяльных вартаўнікоў і аб'езчыкаў і ўстанавіць дакладны ўлік сена ў копнах, стагах і сенавалах;

в) у мэтах барацьбы са стратамі ўраджаю неабходна добра падграбаць сена, рабіць ачоску вазоў пры перавозцы, добрую ўкладку сена ў стагі і на высокіх астож'ях у тых мясцох, дзе пагражае небясьпека затапленьня, зараз-жа адгароджваць стагі для захаваньня ад патраў;

г) арганізаваць грамадзкае харчаваньне на сенажацях».

Правільна і сваячасова праведзеная сенаўборка дае магчымасьць лепш умацаваць кармавую базу, а гэта значыць—умацаваць жывёлагадоўлю. Добрай якасьці сена ўзмацняе конскую цягавую сілу.

Апрача таго, колгасы павінны ўжо цяпер узяцца за падрыхтоўку да сілосаваньня, якое зьяўляецца моцнай падтрымкай для кароў і коняй. Гэтая справа павінна ў кожным колгасе і саўгасе заняць самую сур'ёзную ўвагу.

## Ворыва папару і асеньняя сяўба

На гэтым важнейшым вучастку нашай работы мы недапушчальна адсталі. У многіх колгасах і раёнах недаацэньваюць важнасьці ворыва папару для павышэньня ўраджайнасьці, як цэнтральнай і рашаючай задачы ў сельскай гаспадарцы.

Плян ворыва папару яшчэ не выкананы. Заходняя вобласьць пасьля сканчэньня сяўбы па-баявому пераключылася на выкананьне чарговых сельскагаспадарчых работ і даўно ўжо ворыва папару закончыла. Прычынай нашага адставаньня зьяўляецца тое, што ў нас пасьля сяўбы не змаглі адразу пераключыць сілы на другія работы, і ў прыватнасьці на такую важнейшую справу, як ворыва папару.

Кулацтва і на гэтым вучастку «ціхай сапай» разгортвае сваю дзейнасьць. Вось, напрыклад,

у колгасе «Правда» Стрэлкоўскага сельсавету, Рагачоўскага раёну, ворыва папару да апошняга часу яшчэ не распачыналі. Брыгадзір Хількевіч Раман разам са старшынёй колгасу Бандарэнка наладжваюць п'янку. Хількевіч заяўляе: «Няма чаго араць, бо ня будзе дзе пасьвіць жывёлу». Бандарэнка, падпяваючы кулацкай хлусьне, гаворыць: «Нам араць ня многа, яшчэ пасьпеем».

Упушчанае мы павінны навярстаць і ворыва папару неадкладна скончыць, прычым, самую сур'ёзную ўвагу трэба зьвярнуць на якасьць апрацоўкі глебы, на поўнае скарыстаньне ўсіх відаў угнаеньня.

Трэба добра падрыхтаваць пасеў азімых і заняты папар—не пазьней як за 10—15 дзён, узараўшы яго і добра угнаіўшы.

Усебеларускі зьезд колгасьнікаў-ударнікаў зусім правільна завастрыў увагу на пытаньнях падрыхтоўкі да асеньняй сяўбы, зябліва і ўкараненьня ў БССР пасеваў азімай пшаніцы. Зьезд па гэтым пытаньні сказаў наступнае:

> «Рыхтуючыся зараз да ўборкі і збожжаздачы, мы не павінны забываць і аб асеньняй сяўбе, аб зябліве. Ніякай перадышкі не павінна быць. Трэба арганізаваць справы так, каб кожная гадзіна была поўнасьцю скарыстана для продукцыйнай працы.

Нам трэба будзе ў гэтым годзе сур'ёзна ўзяцца за расшырэньне пасеваў азімай пшаніцы, для чаго мы маем усе ўмовы і кліматычныя і глебавыя. Не зьвярталі мы да гэтага часу на пшаніцу належнай ўвагі. Трэба цяпер такую памылку выправіць».

## Якія абавязкі колгасьнікаў і аднаасобнікаў перад дзяржавай у справе збожжапаставак

Пытаньне аб выкананьні колгасьнікамі і аднаасобнікамі сваіх абавязкаў перад пролетарскай дзяржавай па с.-г. продукцыі было на зьезьдзе колгасьнікаў адным з галоўных, цэнтральных пытаньняў. У дакладзе т. Шаранговіча, у прамове т. Гікало, уступнай прамове т. Галадзеда, у іншых выступленьнях, і нарэшце ў выступленьнях саміх дэлегатаў зьезду, дастаткова яскрава падкрэсьлівалася неабходнасьць выкананьня ў першую чаргу пляпаў збожжапаставак.

Нам трэба моцна ўлічыць урокі загатовак мінулага году, г. зн. наяўнасьць гніла-ліберальных адносін да загатоўчай работы з боку шэрагу партыйных і савецкіх організацый, шматлікія факты кулацкага сабатажу і супраціўленьня выкананьню плянаў загатовак, засьмечанасьці шэрагу партыйных і савецкіх ор-

ганізацый клясава-варожымі элемэнтамі. Гэтыя ўрокі павінны быць поўнасьцю ўлічаны для таго, каб не дапусьціць іх паўтарэньня ў гэтым годзе.

Баявая задача—**зрабіць жнівень і верасень месяцы** рашаючымі месяцамі ў выкананьні збожжапаставак і загатовак, адразу з-пад малатарні здаць належачы дзяржаве хлеб. За выкананьне гэтай задачы кожны колгасьнік павінен змагацца з усёй рашучасьцю.

Зьезд колгасьнікаў у сваёй адозьве так сказаў па гэтым пытаньні:

> «Разгарніце збожжазагатоўкі з першых-жа дзён уборкі і фарсуйце іх, бо першая запаведзь—выкананьне пляну збожжазагатовак»—сказаў т. Сталін. Гэтыя словы нашага правадыра, першага ўдарніка—т. Сталіна мы павінны добра памятаць. Гэтыя словы—наша баявая програма. Наш першачарговы абавязак—да тэрміну выканаць абавязацельствы перад дзяржавай. Збожжа проста з-пад малатарні—на ссыпны пункт.
>
> **Зьезд заклікае ўсіх колгасьнікаў і аднаасобнікаў БССР разгарнуць соцыялістычнае спаборніцтва на поўнае выкананьне пляну паставак збожжа не пазьней 1 кастрычніка. Не дапусьцім найменшай зацяжкі са здачай продукцыі дзяржаве».**

Якія асаблівасьці збожжазагатовак мы

маем у гэтым годзе. На гэтае пытаньне пастанова СНК СССР і ЦК УсеКП(б) дае наступны вычарпальны адказ:

«У адрозьненьне ад мінулых гадоў мы маем у гэтым годзе не збожжазагатоўкі старога тыпу, якія праводзіліся на падставе ня зусім пэўных контрактацыйных дагавароў з сялянствам, а збожжапастаўкі, аснаваныя на цьвёрдым і бясспрэчным законе, абавязковым да выкананьня ўсімі колгасамі і аднаасобнікамі. Гэта значыць, што ніякае ўхіленьне ад абавязкаў па здачы ў тэрмін не павінна быць дапушчана ні пад якім выглядам.

У адрозьненьне ад мінулых гадоў пастаўка збожжа дзяржаве ў гэтым годзе будзе адбывацца не па зьмяняючыхся плянах, а па цьвёрдых і нязьменных нормах, устаноўленых законам, што павінна ўмацаваць становішча колгасаў, павінна стварыць устойлівасьць у гаспадарцы і забясьпечыць колгасу і аднаасобніку магчымасьць цьвёрда разьлічыць свае прыбыткі. Гэта значыць, што ніякія сустрэчныя пляны па здачы збожжа не павінны быць дапушчаны ні пры якіх умовах».

Гэта першая і асноўная асаблівасьць збожжазагатовак гэтага году.

Умовы гэтага году даюць поўную магчымасьць сваячасова справіцца з выкананьнем плянаў збожжапаставак. Трэба падкрэсьліць галоўныя з іх.

Сёлета мы засеялі раней і лепш, чым у мінулым годзе, а гэта азначае, што значна павялічыліся магчымасьці хутчэй, лепш і больш сабраць ураджаю. Гэтаму спрыяе і тое, што віды на ўраджай значна лепшыя, чым у мінулым годзе.

Сёлета па ініцыятыве т. Сталіна, наша партыя організавала політаддзелы МТС і саўгасаў, укомплектаваўшы іх лепшымі праверанымі комуністамі. Гэтым самым партыя ўмацавала кіраўніцтва колгасамі і аказала ім значную дапамогу.

Сёлета мы значна павялічылі колькасьць сельскагаспадарчых машын у саўгасах і колгасах, і тым самым стварылі лепшыя магчымасьці для ўборкі ўраджаю, для павышэньня даходнасьці колгасьнікаў.

Новы закон аб збожжапастаўках і лёзунг т. Сталіна «зрабіць усіх колгасьнікаў заможнымі» зьяўляюцца магутным стымулам для ўздыму сельскагаспадарчай вытворчасьці. Лёзунг т. Сталіна і закон аб збожжапастаўках узмацнілі зацікаўленасьць колгасьнікаў у лепшай уборцы ўраджаю, лепшым абмалоце і датэрміновай здачы збожжа дзяржаве па цьвёрда ўстаноўленых нормах.

У гэтым годзе мы разграмілі кулацтва, якое, аднак, канчаткова яшчэ не ліквідавана і аказвае супраціўленьне, ліквідавалі шкодніцкія організацыі ў Наркомземе і Трактарацэнтры. Зусім ясна, што гэта зьяўляецца надзвычай спрыяючай акалічнасьцю для далейшага ўмацаваньня колгасаў, а гэта значыць і выкананьня імі ў тэрмін плянаў збожжапаставак.

Аднак усё гэта ні ў якой меры не дае падстаў прадстаўляць справу збожжаздачы самацёку і меркаваць, што наяўнасьць закону само па сабе забясьпечвае выкананьне плянаў. Супроцьдзяржаўныя, кулацкія імкненьні яшчэ далёка не ліквідаваны і ў колгасах, і ў саўгасах. Аб гэтым, напрыклад, яскрава сьведчаць факты пераўмяншэньня даных аб ураджайнасьці ў радзе саўгасаў і колгасаў, пераўменшаныя зьвесткі аб сапраўдным становішчы ўраджайнасьці, накіраваныя на тое, каб ашукаць дзяржаву, для таго, каб разбазарыць збожжа і пакінуць большую яго колькасьць у сваім распараджэньні, а менш здаць дзяржаве. Партыя і ўрад робяць зусім правільна, калі прыцягваюць да суровай адказнасьці тых, хто падманьвае дзяржаву, г. зн. робіць яўна кулацкую, антысавецкую справу. Падман дзяржавы натхняецца кулацтвам і праводзіцца ім праз сваю агентуру ў радох партыі ці ў дзяржаўным

і савецкім апараце, або непасрэдна кулацтвам, якое прабралася ў адпаведныя савецкія ўстановы.

Такім чынам, для нас павінна быць правілам: **рашучая барацьба з настроямі самацёку ў справе збожжапаставак, разгортваньне шырокай масава-палітычнай работы вакол задач датэрміновага выкананьня плянаў збожжапаставак, прыцягваньне да суровай адказнасьці ашуканцаў дзяржавы, якія даюць яўна пераўменшаныя даныя аб сапраўдным становішчы ўраджайнасьці.**

Закон аб збожжапастаўках ад 19 студзеня 1933 г. ёсьць цьвёрды і непахісны закон. Усялякае парушэньне норм збожжаздачы або ўхіленьне ад іх выкананьня павінны таму разглядацца як парушэньне закону пролетарскай дзяржавы з усімі выцякаючымі адсюль рэзультатамі.

Саўнарком Саюзу і ЦК УсеКП(б) у сваёй пастанове ад 13/VI палічылі неабходным на аснове больш высокага фактычнага ўраджаю (ураджай вышэй сярэдняга), чым гэта меркавалася раней, павялічыць разьмеры збожжаздачы саўгасамі паўднёвых раёнаў СССР.

На гэтай падставе можа ўзьнікнуць пытаньне, ці нельга павялічыць цьвёрдыя нормы збожжапаставак, устаноўленыя законам і для колгасаў, дзе ўраджай аказаўся вышэй сярэдняга.

Гэтага рабіць нельга ні ў якім выпадку, і ні пад якім-бы там ні было выглядам, і той, хто паспрабуе гэта зрабіць, павінен прыцягвацца да самай суровай адказнасьці, як парушальнік закону.

Такія спробы мы мелі ў Адэскай вобласьці, на Украіне, і Адэскі абком партыі і аблвыканком адпаведным чынам сурова пакаралі вінаватых (гл. «Праўду» ад 14/VII-33 г.).

Трэба зразумець, што гаспадаром саўгаснага ўраджаю зьяўляецца дзяржава і яна цалкам і поўнасьцю ім распараджаецца.

У адносінах колгасаў справа ня можа быць так пастаўлена. ЦК УсеКП(б) і ўрад зыходзілі з сярэдняга ўраджаю, вызначаючы нормы збожжапаставак. Аднак па значнай частцы колгасаў па ўсіх даных ураджай вышэй сярэдняга. ЦК УсеКП(б) і СНК, выдаючы закон, вядома ня толькі лічыліся з магчымасьцю добрага ўраджаю, але і закон для таго выдавалі, каб зацікавіць колгасную масу і працоўных аднаасобнікаў у барацьбе за атрыманьне больш высокіх ураджаяў.

СНК СССР і ЦК УсеКП(б) спэцыяльна ўказалі, што «асобы, вінаватыя ў дачы сустрэчных плянаў, будуць прыцягвацца да крымінальнай адказнасьці».

Наша задача дабіцца таго, каб збожжа дзяржаве здавалася адразу-ж пасьля абмалоту,

*а гэта значыць, што трэба* добра арганізаваць *абмалот,* каб у гэтай справе ня было абсалютна ніякіх перабояў. Лёзунг перадавых колгасаў «збожжа адразу з-пад малатарні—дзяржаве» павінен быць шырока падхоплен колгасьнікамі і аднаасобнікамі, збожжаздача павінна быць ператворана ў аг[illegible]чую зброю разгрому кулацтва, павінна лепш згуртаваць колгасьнікаў вакол партыі, узьняць палітычную сьвядомасьць колгасьнікаў. Трэба, каб колгасьнікі, а па іх прыкладу і аднаасобнікі клапаціліся аб сваячасовым выкананьні збожжапаставак лепшай якасьцю збожжа.

Трэба, каб колгасьнікі і аднаасобнікі сваячасова і поўнасьцю выканалі наступныя самаабавязацельствы па спаборніцтву з Заходняй вобласьцю, прынятыя другім Усебеларускім зьездам колгасьнікаў-ударнікаў.

> «Устанавіць і выканаць здачу сельскагаспадарчай продукцыі ў наступныя тэрміны:
>
> а) збожжа—на працягу жніўня і верасьня месяцаў;
>
> б) бульбу—да 1 лістапада, прычым рабочым Ленінграду адгрузіць у першую чаргу;
>
> в) лён — мобілізаваць колгасьнікаў і аднаасобнікаў на датэрмінавае выкананьне ўстаноўленых партыяй і ўрадам тэрмінаў;

г) правесьці да 1 верасьня аплату натурай работ МТС па дагаварох з колгасамі за вытвараныя да пачатку абмалоту работы, а за абмалот аплату праводзіць кожную пяцідзёнку».

З 1 жніўня, г. зн. з першага дня выкананьня пляну збожжапаставак, спыняецца колгасны і індывідуальны сялянскі гандаль хлебам. Гэтае мерапрыемства зьяўляецца зусім правільным і выклікаецца неабходнасьцю скласьці ўсе спрыяючыя ўмовы для таго, каб хутчэй і датэрмінова (такую поўную магчымасьць мы маем) кожны колгас і аднаасобнік выканалі сваю першую запаведзь—здалі збожжа дзяржаве па ўстаноўленай законам норме. **Жнівень і верасень** месяцы павінны быць у гэтых адносінах **рашаючымі** месяцамі.

Задача кожнага колгасьніка і аднаасобніка—ужо цяпер паклапаціцца аб тым, каб былі выкананы наступныя важнейшыя мерапрыемствы:

а) прывесьці ў поўны парадак транспорт і тару, добра падрыхтаваць цягавую сілу, якая будзе занята на падвозцы збожжа;

б) прывесьці ў поўны парадак падвозныя шляхі да дзяржаўных складаў і чыгуначных станцый, дзе будзе прымацца збожжа;

в) падрыхтаваць вагі і гіры, якія вельмі неабходны для таго, каб наладзіць самы найстражэйшы ўлік здаваемага збожжа.

Перадавыя колгасы ўжо цяпер рыхтуюцца да збожжапаставак. Вось, напрыклад, колгас «Зара рэволюцыі», Бабруйскага раёну, абавязаўся ўбсрку скончыць за самы кароткі тэрмін. Засеяныя культуры ўбіраць па меры высьпяваньня паасобных вучасткаў. Малацьбу організаваць на полі. Плян абавязковых паставак збожжа выканаць у жніўні, а па бульбе ў верасьні, прычым у жніўні выканаць 50 проц. пляну здачы бульбы з плошчы, якая была засеяна раньнімі сартамі бульбы.

Прыкладу гэтага колгасу следуюць і іншыя колгасы. Трэба, каб гэтыя абавязацельствы колгасу «Зара рэволюцыі» былі поўнасьцю і ў тэрмін выкананы.

Другі Ўсебеларускі зьезд колгасьнікаў-ударнікаў у самаабавязацельствах па соцспаборніцтву з Заходняй вобласьцю прыняў наступную пастанову, якую неабходна неадкладна падтрымаць і разгарнуць шырокую масава-палітычную работу на яе выкананьне:

> «Ухваляючы прапановы перадавых колгасаў БССР, мы прапануем 1 жніўня (міжнародны антыімпэрыялістычны дзень) і 6 жніўня (дзень індустрыялізацыі) організаваць масавую здачу збожжа дзяржаве шляхам пасылкі ў гэты дзень колгасных і аднаасобных чырвоных абозаў збожжа новага ўраджаю. Абвяшчаем усе колгасы БССР удзель-

нікамі гэтага абозу, выклікаем колгасы Заходняй вобласьці пасьледваць нашаму прыкладу. З гэтага абозу рушым поўным ходам здачу продукцыі дзяржаве, каб у тэрмін выканаць усе нашы абавязацельствы па спаборніцтву з Заходняй вобласьцю».

Чарговыя задачы, якія зараз стаяць перад партыйнай організацыяй і колгасьнікамі, патрабуюць далейшага напружаньня сіл і энэргіі. Нельга супакойвацца на дасягнутых у сяўбе посьпехах, тым больш, што яны могуць лічыцца поўнасьцю посьпехамі толькі тады, калі мы іх замацуем узорным правядзеньнем праполкі, уборкі ўраджаю, паставак і загатовак с.-г. продуктаў дзяржаве. У нас яшчэ надзвычай многа недахопаў, якія далёка не ліквідаваны, і таму ўсякае добрадушша будзе іх паглыбляць.

## Узмоцнім клясавую пільнасьць

Нарэшце, што асабліва важна, трэба, строга памятаць аб дзейнасьці клясава-варожых элемэнтаў.

**Барацьба з кулаком** ня зьнімаецца. Разьбітае і выкінутае з пераважнай большасьці колгасаў кулацтва, вядома, не адмаўляецца ад далейшай барацьбы. Наадварот, яно яшчэ больш шалёна супраціўляецца.

Вось чаму ад кожнага колгасьніка і ў першую чаргу колгасьніка-ўдарніка патрабуецца асабліва ўзмоцненая клясавая пільнасьць, уменьне выкрыць шкодніцкую дзейнасьць ворага, як-бы ён не маскаваўся. На адказных вучастках работы, як, напрыклад, ахова ўраджаю, работа каля малатарні, узважваньне і інш., мы павінны паставіць лепшых, правераных колгасьнікаў.

Закон аб ахове і недатыкальнасьці грамадзкай (соцыялістычнай) уласнасьці мы павінны ўжыць таксама жорстка і моцна, як яго ўжывалі і раней, асабліва цяпер, калі мы падыходзім да ўборкі ўраджаю і збожжапаставак, у пэрыод, калі клясавы вораг будзе асабліва шалёна імкнуцца нам шкодзіць.

Разам з тым неабходна самым рашучым парадкам змагацца з перагібамі і адміністраваньнем. Галоўнае—разгарнуць масава-палітычную работу, выхоўваць колгасны актыў, згуртоўваючы яго вакол партыйных ячэек і політаддзелаў, разгарнуць у кожнай колгаснай брыгадзе соцыялістычнае спаборніцтва і ўдарніцтва на лепшае і хутчэйшае выкананьне тых задач, якія намечаны другім Усебеларускім зьездам колгасьнікаў-ўдарнікаў.

Зьезд колгасьнікаў-ударнікаў у абавязацельствах па спаборніцтву з Заходняй вобласьцю зусім правільна адзначыў.

«... што зараз на ўборцы і здачы продукцыі на справе будзе правярацца магутнасьць кожнага колгасу, устойлівасьць колгасьнікаў у барацьбе з дробнабуржуазнымі перажыткамі і з падрыўной работай недабітага яшчэ клясавага ворага. Іменна зараз на ўборцы і здачы продукцыі кожны колгас на справе павінен даказаць сваё ўменьне і здольнасьць змагацца за хутчэйшае ажыцьцяўленьне лёзунгу нашага правадыра т. Сталіна—зрабіць усе колгасы бальшавіцкімі і ўсіх колгасьнікаў заможнымі».

Перад намі з асаблівай вастрынёй стаіць задача дабіцца бальшавіцкага парадку ў кожным колгасе, дабіцца такой колгаснай дысцыпліны, каб ў колгасе ўвесь колектыў, кожны колгасьнік і кіруючы работнік несьлі адказнасьць за даручаемую ім частку колгаснай маёмасьці, каб кожны колгасьнік адказваў цалкам і поўнасьцю за даручаную яму работу.

Галоўным мэтодам работы ў вёсцы зьяўляецца мэтод пераконаньня. Рашуча змагаючыся з рэшткамі кулацтва і іншымі клясававарожымі элемэнтамі, бязьлітасна перасякаючы іх шкодніцкую дзейнасьць, цьвёрда праводзячы сваю лінію, наша партыя ў адносінах да усёй масы колгаснага сялянства і працоўных аднаасобнікаў дзейнічае мэтодам

перакананьня—не загадам і вокрыкам, а арганізацыяй і згуртаваньнем лепшых элемэнтаў, станоўчым прыкладам работы.

Трэба, каб кожны колгасьнік добра зразумеў і выконваў указаньне т. Сталіна, зробленае ім на першым Усесаюзным зьезьдзе колгасьнікаў-ударнікаў:

> «Ад вас патрабуецца толькі адно—працаваць сумленна, дзяліць колгасныя даходы па працы, берагчы колгаснае дабро, берагчы трактары і машыны, наладзіць добры догляд за канём, выконваць заданьні вашай рабоча-сялянскай дзяржавы, умацоўваць колгасы і вышыбаць вон з колгасаў пралезшых туды кулакоў і падкулачнікаў».

## Як трэба наладзіць ахову ўраджаю

Гультай, злодзей, кулак і падкулачнік будуць імкнуцца пажывіцца на колгасным ураджаі. Яны будуць спрабаваць зразаць каласы, расьцягваць снапы, а таксама красьці збожжа пры перавозках і малацьбе. Імкненьні кляса-варожых элемэнтаў расьцягнуць колгасны і саўгасны ўраджай павінны сустрэць самы жорсткі адпор. Колгасы і саўгасы павінны наладзіць самую найстражэйшую ахову і абарону колгаснага і саўгаснага ўраджаю ад раскраданьня.

ЦК УсеКП(б) і ўраду сваёй пастанове далі спэцыяльную дырэктыву судова-карным органам больш строга ўжываць закон ад 7 жніўня 1932 г. аб ахове грамадзкай уласнасьці, да злодзеяў і раскрадальнікаў колгаснага і саўгаснага ўраджаю.

ЦК і СНК устанавілі конкрэтныя мерапрыемствы, выкананьне якіх павінны забясьпечыць ахову колгаснага і саўгаснага ўраджаю. Гэтыя мерапрыемствы наступныя:

1. Ускласьці непасрэдную ахову збожжа на палявую колгасную брыгаду і яе брыгадзіра.

2. Організаваць да ўборкі аб'езды палёў спэцыяльнымі аб'езчыкамі.

3. Устанавіць абавязковае ўзважваньне збожжа (вагамі ці праверанай меркай) непасрэдна пры малатарнях і пры прыёмцы збожжа ў сьвірны. Устанавіць найстражэйшы ўлік атрыманага ўраджаю на ўсіх стадыях яго ўборкі, у прыватнасьці, забясьпечыць суправаджэньне збожжа ад малатарань у сьвірны і ссыпныя пункты накладной з вызначэньнем дакладнай колькасьці накіроўваемага збожжа з указаньнем культур і сартоў і неадкладную праверку кожнага выпадку недахопу супроць накладной пры здачы збожжа на дзяржаўныя склады ці ў колгасныя сьвірны.

4. Усе сьвірны ў колгасах для хаваньня збожжа павінны быць выдзелены загадзя,

пранумараваны, прадэзынфіцыраваны і сьпіс іх павінен быць зарэгістраван у колгасах, абслугоўваемых МТС—у МТС, а ў колгасах, не абслугоўваемых МТС—у Райза. Выдавацца збожжа са сьвірнаў у колгасах павінна толькі па падпісаным старшынёй колгасу ордэру.

Наркомзем СССР і БССР выдалі спэцыяльныя інструкцыі аб ахове ўраджаю, у якіх дакладна прадугледжаны ўсе мерапрыемствы па ахове ўраджаю.

Кожны колгасьнік і рабочы саўгасу павінен добра ведаць усе пункты гэтай інструкцыі.

Інструкцыя строга абавязвае выдзяляць ў якасьці аб'езчыкаў палёў, вартаўнікоў колгасных сьвірнаў, дзяжурных і вагаўшчыкоў, найбольш правераных і надзейных колгасьнікаў. Праўленьне колгасу павінна дакладна праінструктаваць колгасьнікаў, выдзеленых для непасрэднай аховы ўраджаю, і штодзенна правяраць выкананьне імі сваіх абавязкаў.

Асабліва дакладны і строгі ўлік і штодзенную справаздачнасьць неабходна наладзіць пры малацьбе. Тут асабліва адказная задача ўскладаецца на вагаўшчыка, які згодна інструкцыі:

а) вядзе ўлік прывазімых да малатарні копнаў (снапоў), правярае возчыкаў і сочыць за тым, каб увесь лік копнаў і скіртаў,

улічаных пры касавіцы, прайшоў праз малатарню;

б) вытварае водпуск (адпраўку атрыманага збожжа згодна загадаў дырэктара МТС і старшыні колгасу—у колгасах, абслугоўваемых МТС, і старшынь колгасаў—у колгасах, не абслугоўваемых МТС. Правярае па дакумантах здачу возчыкамі атрыманага ім збожжа па назначэньню;

г) запісвае ўсю паступіўшую ад малатарні колькасьць збожжа (па сартох) і колькасьць азадкаў у дзеньнік, прадстаўляе штодзенна дырэктару МТС і колгасу данясеньне аб малацьбе, у якім дакладна ўказвае пабрыгадна плошчу, з якой праведзен абмалот па данай культуры ў копнах і гектарах, астатак збожжа ў малатарні к пачатку дня, абмалот за дзень, адпраўку збожжа па адрасох і накладных, рэштку нявывезенага. Данясеньне падпісваецца вагаўшчыком і колгасным брыгадзірам. Да данясеньня прыкладаюцца квітанцыі і накладныя з расьпіскамі.

Ахова колгаснага ўраджаю зьяўляецца справай ня толькі спэцыяльна выдзеленых для гэтага людзей. Кожны колгасьнік, якому непасрэдна не даручана ахова ўраджаю, павінен лічыць сваім абавязкам пільна сачыць за тым, каб не раскрадваўся ўраджай. Ахова ўраджаю—цьвёрды абавязак кожнага колгасьніка і рабочага саўгасу.

## Які парадак выдачы авансаў павінен быць устаноўлен у колгасах

Выдача авансаў з новага ўраджаю ў мінулым годзе была пастаўлена ў радзе колгасаў і раёнаў беспарадачна, у выніку чаго мелі месца вялікія раскраданьні збожжа, растраты і рвацкія выдачы авансаў. Гэта зьяўлілася прычынай зацяжкі выкананьня плянаў збожжазагатовак, а па радзе раёнаў і колгасаў прычынай невыкананьня гэтых плянаў.

У тых колгасах, дзе так безадказна і па-рвацку была пастаўлена выдача авансаў, збожжа адразу пасьля абмалоту ня толькі не паступала на загатоўчыя пункты, але нават не пападала ў колгасныя сьвірны. Збожжа адразу пасьля абмалоту пад выглядам яўна пераўвялічаных «авансаў», патрэб на «грамадзкае харчаваньне», на розныя «фонды» фактычна расьцягвалася па руках, трапляючы часьцей да гультаёў, кулакоў і злодзеяў. Такія злачынныя адносіны да колгаснага збожжа прынесьлі вялізарнейшую шкоду ня толькі добрасумленным колгасьнікам, якія з прычыны гэтага да канца году апынуліся ў цяжкім становішчы з хлебам, але таксама прынесьлі вялікую шкоду дзяржаве.

Зусім зразумела, што такія злачынныя адносіны да збожжа ў гэтым годзе павінны быць самым рашучым чынам выкаранены.

Выдачу колгасьнікам авансаў збожжавых культур да выкананьня дзяржаўных абавязацельстваў можна рабіць у разьмеры ня больш, як дзесяці процантаў ад колькасьці намалочанай збожжавай культуры (жыта, пшаніца, ячмень, грэчка, прэса). Выдачу авансаў неабходна правесьці такім організаваным парадкам, каб яны выдаваліся ў першую чаргу добрасумленна працуючым колгасьнікам-ударнікам і каб агульны разьмер выданага авансу па асобных культурах не перавышаў дзесяці процантаў вытворчага абмалоту гэтых культур.

Пастановай ЦК КП(б)Б і СНК БССР прадастаўлена права райкомам, райвыканкомам і політаддзелам для асобных колгасаў, якія ўзорна організавалі ўборку і дабіліся больш высокага ўраджаю, у якасьці выключэньня, павышаць разьмеры выдачы авансаў да пятнаццаці процантаў ад абмалоту збожжавых культур.

Адначасова прадастаўлена права паніжаць гэты процант да поўнага выкананьня колгасам абавязацельстваў па пастаўцы збожжа дзяржаве для тых колгасаў, якія дрэнна правялі ўборку, не змагаюцца са стратамі ўраджаю і маюць нізкую ўраджайнасьць.

Указаная пастанова ЦК КП(б)Б і СНК БССР устанаўлівае, што задавальненьне ўнутрыколгасных патрэб, як напрыклад: на грамадзкае

харчаваньне, утрыманьне ясьляй і інш., да поўнага выкананьня колгасам абавязацельстваў па пастаўцы збожжа дзяржаве—можа ўтварацца толькі з тых-жа дзесяці процантаў ад абмалоту збожжавых.

Такім чынам, правілы, устаноўленыя ў адносінах выдачы авансаў, павінны быць строга выкананы ў кожным колгасе. Выкананьне гэтых правіл абараняе колгасны ўраджай ад раскрадваньняў кулакамі, злодзеямі і падкулачнікамі, заахвочвае колгасьнікаў лепш працаваць і хутчэй выканаць свае абавязкі перад пролетарскай дзяржавай. Усе, хто будзе імкнуцца парушаць устаноўлены парадак, павінны прыцягвацца да суровай адказнасьці як ворагі дзяржавы і колгаснага ўраджаю.

## Пабудуем авіяцыйную эскадрыльлю імя Л. М. Кагановіча

Міжнародная абстаноўка, у якой зараз знаходзіцца наш Савецкі саюз, яскрава сьведчыць аб тым, што задача ўмацаваньня абароназдольнасьці Савецкай краіны і вернага вартавога савецкіх граніц—Чырвонай арміі застаецца важнейшай задачай.

Усё гэта абавязвае нас, разам з цьвёрдай політыкай міру, якая заваявала вялікія посьпехі, быць увесь час пільнымі да розных вы-

лазак нашых ворагаў, яшчэ больш умацоўваць нашу Чырвоную армію, якая стала ўжо цяпер першакляснай арміяй.

Трэба шырока падтрымаць ініцыятыву гомельскіх колгасьнікаў аб пабудове **авіяцыйнай эскадрыльлі імя Л. М. Кагановіча.** Гэтая ініцыятыва была цалкам і поўнасьцю падхоплена і падтрымана другім Усебеларускім зьездам колгасьнікаў-ударнікаў. Дэлегаты зьезду гэтую ініцыятыву тут-жа на зьезьдзе падмацавалі зборам сродкаў на пабудову авіяэскадрыльлі імя Л. М. Кагановіча, разгарнуўшы спаборніцтва паміж сабой. Трэба цяпер ва ўсіх колгасах і сярод аднаасобнікаў разгарнуць збор сродкаў на пабудову эскадрыльлі, памятаючы, што мы гэтым самым умацоўваем магутнасьць Савецкага саюзу, а гэта, значыць, ствараем магчымасьць будаваць лепшае колгаснае заможнае жыцьцё.

## Раўняцца па лепшых колгасьніках-ударніках

На чацьвертым заключным пасяджаньні другога Ўсебеларускага зьезду колгасьнікаў-ўдарнікаў была зачытана пастанова Цэнтральнай комісіі па соцыялістычным спаборніцтве з Заходняй вобласьцю, аб прэміяваньні за лепшае правядзеньне сяўбы перадавых раёнаў, сельсаветаў, колгасаў і асобных колгасьнікаў-ўдарнікаў.

Пастановай комісіі прэміяваны: **Слуцкі раён,** які скончыў адным з першых у БССР сяўбу яравых,—пераходным чырвоным сьцягам ЦК КП(б)Б і аўтомашынай, **Рагачоўскі** раён—5 тысяч руб., **Бялыніцкі**—3 тыс. руб., **Шклоўскі** раён, які першым у БССР скончыў сяўбу ільну—пераходным чырвоным сьцягам СНК БССР, **Барысаўскі** раён—пераходным чырвоным сьцягам імя X зьезду Саветаў БССР.

Прэміі таксама атрымалі наступныя перадавыя МТС: **Танежыцкая** (Чырвона-Слабодзкага раёну)—5 тыс. руб., **Цялуская** (Бабруйскі раён)—4 тыс. руб., **Шклоўская**—3 тыс. руб. З ліку перадавых сельсаветаў прэміяваны—**Слабода-Бычанскі** (Барысаўскі раён), **Астравіцянскі** (Полацкі раён), **Валасавіцкі** (Парыцкі раён).

Атрымалі каштоўныя падарункі-прэміі рад колгасьнікаў і колгасьніц, якія па-баявому і ўзорна змагаліся за правядзеньне веснавой сяўбы.

Кожны з колгасьнікаў-ударнікаў, а таксама прадстаўнікі раёнаў, атрымаўшых прэміі—заявілі з трыбуны Ўсебеларускага зьезду аб сваёй гатоўнасьці і жаданьні і ў далейшым па-баявому змагацца за выкананьне чарговых задач: праполку, уборку ўраджаю, збожжапастаўкі і загатоўкі. Прыклады работы лепшых ударнікаў-колгасьнікаў павінны быць шырока вядомы ўсім колгасьнікам і аднаасобнікам рэспублікі. Кожны колгасьнік павінен

лічыць **справай чэсьці** працаваць так, як працавалі ў часе весновай сяўбы і працуюць зараз лепшыя колгасьнікі-ўдарнікі.

* * *

Усебеларускі зьезд колгасьнікаў-ударнікаў дэмонстраваў перамогі, дасягнутыя ў правядзеньні веснавой сяўбы, у барацьбе за высокі ўраджай колгасных і саўгасных палёў. Перамогі вялікія. Аднак, **былі ўсе магчымасьці зрабіць іх большымі і лепшымі.** Мы ніякага права ня маем супакойвацца на дасягнутых посьпехах. Нельга дапускаць ніводнай мінуты самазаспакаеньня. Наадварот. Галоўныя і рашаючыя задачы ўперадзе. Другі Ўсебеларускі зьезд колгасьнікаў-ударнікаў зусім правільна сваю галоўную ўвагу накіраваў на выращэньне важнейшых чарговых задач.

Зьезд зусім правільна і сваячасова ўказаў на тое, што **«мы атрымалі толькі першыя посьпехі ў барацьбе за ўвядзеньне сапраўдных парадкаў у колгасах. Ачыстку і аздараўленьне колгасаў трэба няўхільна праводзіць і далей».** Ажыцьцяўленьне лёзунгу т. Сталіна аб тым, каб зрабіць колгасы большавіцкмі, а колгасьнікаў заможнымі, залежыць ад таго, як мы правядзем уборку і здачу сельскагаспадарчай продукцыі дзяржаве.

Наша задача цяпер і ў першую чаргу кожнага дэлегата зьезду ўзьняць колгасныя масы

на барацьбу за ўраджай, за правядзеньне ў самыя кароткія тэрміны і бяз страт уборкі, за датэрміновае выкананьне плянаў загатовак і паставак збожжа дзяржаве. Кожны дэлегат зьезду павінен стаць баявым арганізатарам выкананьня гэтых задач ня толькі ў сваёй брыгадзе і колгасе, але і ў суседніх колгасах.

Пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі і яе любімага правадыра **т. Сталіна**, пад кіраўніцтвам ЦК КП(б)Б на чале з **т. Гікало**—мы павінны па-баявому, арганізавана і ў тэрмін выканаць задачы бягучага сельскагаспадарчага году. Лепш убраць ураджай, датэрмінова выканаць плян загатовак сельскагаспадарчых продуктаў і збожжапаставак, устанавіць бальшавіцкі парадак у кожным колгасе, правільна арганізаваць работу па ўборцы, бязьлітасна змагацца з супраціўленьнем кулацкіх і іншых антысавецкіх элемэнтаў і заваяваць пяршынство ў соцспаборніцтве з Заходняй вобласьцю—такія баявыя неадкладныя задачы.

---

